Кошт паштовай перасылкі
аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 8. Вільня, Нядзеля, 9-га сакавіка 1924 г. Год I.

## Беларускае пытаньне заграніцай.

Усё часьцей і часьцей прыходзіцца адзначаць факты, якія сьведчаць, што зацікаўленьне беларускім пытаньнем заграніцай усьцяж павялічываецца. Ад часу Вэрсальскае канфэрэнцыі, калі дэлегацыя Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі пад кіраўніцтвам А. Луцкевіча распачала першыя крокі дзеля пазнаямленьня вялікіх дзяржаваў з нашай справай, зрабіліся на міжнароднай палітычнай арэне вялізарныя перамены. І тое, аб чым прадстаўнікі антанты слухалі толькі адным вухам, бо ім гэта было *нявыгадна*, цяпер зьяўляецца паважавым козырам у палітычнай ігры.

Згэтуль вынікае і цікавасьць да беларускае справы. А асновай дзеля такое цікавасьці зьяўляецца вялізарны крок упярод у дзяржаўным будаўніцтве Радавае Беларусі, якая, пасьля пашырэньня яе тэрыторыі, робіцца паметнай сілай у жыцьці СССР, ды адначасна з гэтым ўсё большы узрост рэпрэсіяў у адносінах да беларусаў пад уладай Польшчы.

Як-жа гэта?—спытаеце. А вельмі проста. Рыжскі мір, які разрэзаў жывое цела Беларусі на дзьве часьці, узлажыў на Польшчу абавязак ушанаваньня правоў адыйшоўшага пад яе ўладу беларускага насяленьня. Гэтага абавязку Польшча не выпаўняе, і такім чынам СССР мае падставу да варожых выступленьняў проці Польшчы, калі-б на тое быў адпаведны мамэнт. Бо верыць у „дружбу“ між Польшчай і СССР хіба ніхто ня будзе...

Вось, чаму беларускім пытаньнем так пачалі цікавіцца цяпер на Захадзе. У 1919 годзе англійскі прадстаўнік у Бэрліне, да якога былі зьвярнуліся беларусы, з задзіўленьнем сказаў: „Беларусы? Ці гэта яны пад Белым морам жывуць?“—Цяпер, як нас паведамляюць з Лёндану, вялізарную цікавасьць да нашае справы выяўляе іменна Англія—у сувязі з новай палітычнай лініяй работніцкага ўраду Мак-Дональда.

Дагэтуль у Заходняй Эўропе панавала палітыка Пуанкарэ, якая манілася *забясьпечыць мір аружнай сілай* Францыі і яе саюзьніц (у тым ліку і Польшчы). Дзеля гэтага, як Францыя, так і цэлы рад дробных дзяржаў, якім яна дае пазыкі (ведама, за добрыя працэнты!) на ўтрыманьне арміі, са скуры лезуць, каб дзяржаць напагатове вялікія войскі. Само сабой ясна, што дзяржавы, якія палову сваіх даходаў аддаюць на армію, ня могуць эканамічна разьвівацца. Гэта, паміж іншым, сказаў у „Times“-е аб Польшчы яе фінансавы раднік, Хільтон Юнг, англійскі эканаміст. Гэтак „аружны мір“ не дае Эўропе вярнуцца да нармальнага жыцьця, вартасьць ня толькі польскае маркі, але і француская франка катастрафічна падае, Францыя і яе саюзьніцы ня маюць магчымасьці за сваю нізкую валюту купляць патрэбныя тавары заграніцай. Ад гэтага-ж ізноў церпяць тыя дзяржавы, у якіх фабрычная прамысловасьць патрабуе для сябе рынкаў збыту за іх дзяржаўнымі межамі, а перад усім—Англія. Пагроза-ж новых войнаў, якая ўсьцяж вісіць пад змілітарызованай Эўропай, не дае магчымасьці і ў бліжэйшай будучыні вярнуць у Эўропе нармальныя эканамічна-гаспадарчыя адносіны.

Вось-жа англійскі работніцкі ўрад горача паўстае проці далейшага панаваньня францускае сыстэмы „аружнага міру“. Замест яе Мак-Дональд прапануе новую сыстэму—сыстэму *разаружэньня* Эўропы і забясьпечаньня міру такой палітыкай, якая вырашала-бы ўсе спрэчкі паміж дзяржавамі мірнай дарогай — пры пасрэдніцтве Лігі Нацыяў.

Найбольш трывогі ў Францыі і яе саюзьніц выклікае Нямеччына і СССР. Вось-жа Англія дамагаецца дапушчэньня гэтых дзяржаў у Лігу Нацыяў, шукаючы адначасна спосабаў дзеля ўхіленьня прычын магчымых аружных канфліктаў з імі.

А падстаў дзеля такіх канфліктаў цяпер многа,—асабліва ў Польшчы: з Нямеччынай — за калянія стаў, з СССР—за беларусаў і украінцаў. Да таго-ж палажэньне абастраецца варожымі адносінамі паміж Польшчай і Літвой, у выніку каторых складовыя часьці СССР—Беларусь і Украіна — маюць зусім адрэзаны доступ да Балтыцкага мора (па Нёмне, па чыгунках да Лібаўскага порту і інш.). Ужо двойчы Чычэрын слаў Польшчы ноты пратэсту проці ўціску беларусаў. Ды нават і „лібэральная“ расейская эміграцыя, як піша „Gaz. Warsz.“, востра выступае проці польскае палітыкі прыгнятаньня беларускага насяленьня: прынамсі „сам“ Мілюков, лідэр кадэтаў, да вайны выступаўшы няпрыхільна да беларускага адраджэньня, надрукаваў у парыжскай газэце „Послѣднія Новости“ стацьцю, у якой кляйміць Польшчу за нішчэньне беларускае асьветы, за „асадніцтва“, забіраньне праваслаўных цэркваў, зьдзекі адміністрацыі, арышты, біцьцё і т. п.

Ясна, што і ў прыпадку разаружэньня Эўропы, чаго хоча Мак-Дональд, такія пытаньні, як беларускае, украінскае, літоўскае, нямецкае, не перастануць трывожыць агульнага міру. І цяпер у Англіі ўжо дужа добра ведаюць, што такое беларусы і Беларусь ды пільна сачаць за кожнай крыўдай нашага народу; а вынікам гэтага могуць быць дужа няпрыемныя для Польшчы выступленьні ў Лізе Нацыяў, а мо' і паднясьце пытаньня аб граніцах Польшчы на Усходзе, каб толькі ўхіліць магчымасьць аружнага канфлікту на гэтым грунце паміж Польшчай і суседзямі на Усходзе.

Цікава, ці ня ў сувязі з узмацаваньнем актуальнасьці беларускага пытаньня заграніцай сярод разумнейшых польскіх палітыкаў пачаўся „новы курс“ у адносінах да беларусаў? Ці ня тут трэба шукаць прычыны гутарак аб аўтаноміі для Заходняе Беларусі? Ці ня гэта зьяўляецца прычынай стварэньня і Польска-Беларускага Таварыства ў Вільні?...

Толькі-ж беларусы ўжо „старыя вераб'і“, якіх раз удалося п. Пілсудскаму злавіць на мякіну, але другі—ня ўдасцца....

Пачакаем: як гэта салодкія словы будуць пературацца ў дзела. Бо аб панскіх абяцанках наш народ, здаўна пазнаўшы іх цану, улажыў такую прыказку:

„Абяцаў пан кажух,—цёпла панскае слова!“

## Нашы абшарнікі.

У апошнія часы ў тутэйшым органе консэрватыстаў, ці што-тое самае паноў-абшарнікаў, усё часьцей зьяўляюцца вялізарныя артыкулы аб цяжкім палажэньні ясьневельможных паноў; аб тым, што маёнткі іх не даюць ім ніякай карысьці, што дамаганьні сельска-гаспадарчых работнікаў (парабкоў) прымусяць іх закінуць гаспадарку, і што падатку ад маемасьці яны ня могуць заплаціць, бо ён занадта высокі, дзеля гэтага нават была выслана спэцыяльная дэлегацыя ў Варшаву, якая злажыла мэмарыял, у якім вельмі красамоўна было паказана цяжкое палажэньне паноў-абшарнікаў. Каб папраўіць сваё палажэньне, нашы паны дамагаюцца, каб ім было дазволена прадаваць зямлю і лясы бяз усякага аграніченьня, каб падаткі былі зьменшаны і г. д. Усё гэта матывуецца яшчэ тым, што абшарніцтва—гэта падстава польскае культуры на крэсах, што калі ўрад ня пойдзе на спатканьне іх дамаганьняў, дык справа дэнацыяналізацыі беларускіх абшараў, справа апалячваньня беларускага селяніна і работніка ня будзе мець пасьпеху.

Ясна, што ўрад сучаснае Польшчы возьме пад увагу дамаганьні крэсовых абшарнікаў і зробіць усё залежнае, каб эканамічна ўмацаваць гэтыя пляцоўкі „польскай буржуазнай культуры“, хаця-б са шкодай для „направы скарбу“, якая ставіцца галоўным заданьнем сучаснага ўраду. Але панам-абшарнікам гэтага мала, яны хочуць поўнага паняволеньня беларускага селяніна і работніка. Тое страшэнна цяжкое палажэньне парабкоў, той проста-немагчымы вызыск абшарнікам сельска-гаспадарчага работніка, які ў шмат разоў правышае вызыск у іншых частках Польшчы, не задаваляе іх, і яны ўсімі сіламі стараюцца перашкодзіць таму прабуджэньню сьвядомасьці сярод нашых працоўных масаў, вядуць бязьлітасную барацьбу з усякай спробай работніка і селяніна зарганізавацца, для паляпшэньня свайго цяжкога становішча, з усякай спробай абмяжаваньня панскай самаволі.

Зразумела, што перш за ўсё барацьба гэтая кіруецца проціў профэсыянальных работніцкіх арганізацыяў, проціў саюзу сельска-гаспадарчых работнікаў. Абшарнікі добра знаюць, што іх панаваньню і дзікаму вызыску прыдзе канец, калі працоўны народ зможа стварыць моцную клясовую арганізацыю, якая зможа абараніць кожнага свайго сябра, і вось яны абвесьцілі вайну гэтай арганізацыі.

Наша рэдакцыя атрымала вельмі цікавы дакумант, які выразна сьведчыць, аб замерах ясьневельможных. Гэта цыркуляр Віленскага Аддзелу „Крэсовага Саюзу Земляўласьнікаў" (Kresowy Związek Ziemian) з дня 27 сьнежня 1923 г. да усіх сваіх сябраў.

Прыводзім яго ў перакладзе з польскай мовы поўнасьцю.

„Віленскі Інспэктар Працы склікаў на 17-га гэтага месяца прадстаўнікоў павятовых саюзаў земляўласьнікаў, а таксама профэсыянальных саюзаў сельска-гаспадарчых работнікаў для ўстаненьня варункаў працы і платы на 1924/25 год. Напачатку прадстаўнікі с.-г. работнікаў паставілі гэткія дамаганьні: 1) каб працадаўцы маглі прымаць сельска-гасп. работнікаў, толькі вызначаных праз профэсыянальны саюзы; 2) каб бяз згоды ўрадаў профэсыянальных саюзаў ні водзін з сельска-гаспад. работнікаў ня быў звольнены; 3) каб у кожным маёнтку быў выбраны праз с.-г. работнікаў дэлегат, які меў-бы права ў тэрмін і на час, паводле свайго выбару, выязджаць у справах саюзаў і каб прапушчаныя з гэтай прычыны ў рабоце дні ня толькі былі яму залічаны, але каб нават даваць яму коні для паездкі ў павет, або на станцыю чыгункі; 4) каб пэнсыя, ардынара, сколькасьць зямлі пад бульбу і гародніну былі павялічаны на 100% і бясплатна дадзены корм для 2 кароў.

Павятовыя дэлегаты саюзу земляўласьнікаў аднамысна прызналі немагчымым прыняцьце гэтых варункаў. Згадзіліся аднак на ўзнаўленьне перагавораў 20 студзеня 1924 г. Калі сельска-гаспад. работнікі ад вышэйшых варункаў не адмовяцца, ды колектыўная ўмова на 1924/25 г. зроблена ня будзе і напэўна Міністар працы вызначыць надзвычайную камісію, якая сваёю ўладай установіць варункі працы і платы сельска-гаспадарчых работнікаў, праўдападобна не карысныя для працадаўцаў, як гэтага мы мелі доказ у леташнім годзе.

Дзеля гэтага паны павятовыя дэлегаты саюзу земляўласьнікаў прышлі да пераканаIньня, што, каб забясьпечыць сябе ад накіданьня праз Надзвычайную Камісію немагчымых для працадаўцаў варункаў працы і платы, трэба перад 6 студзеня 1924 г. **адмовіць у службе ўсім сельска-гаспадарчым работнікам бяз вынятку ад 1 красавіка 1924 г.**, тлумачачы гэта тым, што няведаючы, якія варункі будуць абавязваць працаўнікоў, пры гэткім высокімападаткаваньні, ня можна ведаць, ці аплаціцца вядзеньне гаспадаркі пры помачы сталых работнікаў. Гэткім спосабам

найвышэйшы прадстаўнік дзяржаўнае ўлады ў павеце—адна і тая самая асоба...

Павінен памятаць добра і тое, што ня ён, Соймік, старшыню-старосту выбіраў, але наадварот п. староста ў значнай меры „выбіраў“ Соймік..;— што ня Соймік вызначае старосьце „дадаткі“ і „залічкі“, кошты, дыеты і паборы ў натуры; што ня ён—Соймік можа скінуць у любы мамэнт Старшыню „свайго“ „выканаўчага органу“—пана старосту, але якраз наадварот: п. староста можа ў любы мамэнт у парадку дзяржаўнага нагляду, „ўхіліць“ і ўневажніць Соймік...

І нават малое дзіцё зразумее, хто каго больш пабаіцца, хто з іх больш перапудзіцца, калі адкрыюцца тыя ці іншыя „няправільнасьці“ ў дзеяльнасьці Выдзялу Павятовага, ці яго старшыні, пана старосты, ці нарабіўшы „няправільнасьці“ выканаўчы орган, ці адкрыўшая іх кантралюючая ўстанова?

### Найлепшая скарга да Лігі Народаў.

Наш агульны пабежны агляд праекту „грамадзкага самаўраду“ ў Польскай Рэспубліцы скончаны.

З гэтага агляду відаць ясна, што ўсе гэтыя праекты ня толькі ў самых сваіх падставах адкідаюць галоўныя прынцыпы самаўраду, але найвыразней гвалцяць самыя асновы праўнага гаспадарства, ня кажучы ўжо аб дэмакратычнай Канстытуцыі Польскай Рэспублікі.

Гэтыя праекты — самая ліхая пародыя, найагіднейшая карыкатура, на ўсякае ўставадаўства, якую-б толькі мог выдумаць нейгоршы вораг Польшчы...

Ці-ж дапраўды можа быць лепш абаснаваная скарга... да Масквы ці да Жэнэвы, як дакладная копія гэтых праектаў, якімі Польшча папросту „зьнімае“ свой подпіс з абодвух галоўных сваіх трактатаў: Вэрсальскага („дадатковага“) і Рыскага...

Трэба асобна падчыркнуць тую дзіцяча-цынічную, умысна-нясьціслую мову, якой пісаны ўсе гэтыя творы „праўнага гэнія“ сучаснай Польшчы...

Усюдых быццам „юрыдычныя“ формы і тэрміны прыкрываюць зусім неабмяжованую самаволю ўлады, найшырэйшыя магчымасьці надужыцьцяў і гвалтаў...

Гэтая „мова“ добра сьведчыць аб тым, што першыя тварцы праектаў, пачуўшы сваю „сталую большасьць“ у Сойме зусім выразна паказалі свой запраўдны твор.

### Забойства самаўраду — самазабойства Сойму.

Як мы сказалі ў пачатку, Сойм амаль ня ўсімі польскімі галасамі знайшоў магчымым *прыняць праекты за падставу* камісыйнай апрацоўкі...

Але, як жа-ж дзіўна выглядае пабач з гэтым, што нават сам унёсшы праекты ў Сойм прадстаўнік ураду, міністар унутраных спраў п. Солтан, на тым жа паседжаньні Сойму, заявіў, што нават сам урад „толькі ўносіць іх, але *бараніць засадаў і падставаў гэтых праектаў ня будзе*“...

Дапраўды — ёсьць чаму падзівіцца! — Урад, з дзіўнай „пашанай“ да Уставадаўчай Палаты, уносячы праекты, (аб самаволі ўраду ў самаўрадзе), дадае, што *лічыць нягоднымі—бо нягоднымі абароны—нават самыя іх падставы і засады...*

Але-ж відаць, лічыць праекты дастойнымі Польскага Сойму...

І прадстаўнік ураду не мыляецца... у „сваім“ Сойме: Высокі Сойм Польскай Рэспублікі апраўдывае гэткае даверые „пазапарлямэнтарнага“ ураду, бо законапраекты апрацаваныя на нягодных, нават на смак п. міністра ўнутраных спраў, падставах Польскі Парлямэнт лічыць магчымым прыняць за падставу для далейшай апрацоўкі!..

Відаць, смак Сойму — менш „выбрэдны“, як у п. міністра...

Гэта—ў тэй найгалаўнейшай справе *мясцовага самаўраду*, ад вырашэньня якой, як мы ведаем, *залежыць і самае істнаваньне цэнтральнага самаўраду Рэспублікі, істнаваньне яе запраўднага Парлямэнту*!!.

### Паняволеныя лераможцы, ці ворагі беларусаў—ворагі свайго польскага народу.

У заключэньне—апошні, можа,—найважнейшы агульны вывад з усей нашае расправы.

Польскае грамадзянства—Сойм, урад, прэса—заняўшы варожае становішча адносна беларускага народу, тым самым—з няўхільнай законамернасьцю на нашых вачох робіцца і *ворагам самога сябе* і *свайго народу*, пертвараючы сваю „Дэмакратычную Рэспубліку“ ў запраўднае паліцэйскае гаспадарства...

Бо трэба-ж ведаць, што ўсе гэтыя цынічна-паліцэйскія „кляўзулі“ праектаванага „самаўраду“, якія ставяць сабе перадусім мэту — аддаць *беларускага селяніна*, і наагул-„крэсавага грамадзяніна другога сорту“—ў поўную самаволю адміністрацыі і паліцыі, законапраект тасуе, бо ў парадку агульна-дзяржаўнага законадаўства *павінен* тасаваць—і *да польскага народу*,—да ўсяе рэшты тэрыторыі Польшчы...

Усе тыя „скарпіоны“ якія польская ўлада прыгатавала для беларусоў, яна *павінна і мае ўжо яўны намер*—тасаваць і да „прыроджанага гаспадара Польшчы“,—да ўсяго польскага народу...

Бо *у гаспадарствах з няроўнасьцю грамадзян роўня агульна-дзяржаўнага ўставадаўства, ня кажучы ўжо аб адміністрацыйна-паліцэйскай практыцы выканаўчае ўлады, няўхільна паніжаецца да роўні ніжэйшага гатунку грамадзян...*

Гэты закон няхай добра зразумее польскі народ!..

„Дабром“ хьена - пястоўскіх законапраектаў будуць карыстацца *толькі тыя ўрадоўцы*, якія будуць складаць гэтую бюракратычную піраміду „самаўраду“, *ператвараючыся з слугаў народу ў паразытау на яго душы і целе...*

Для гэтых паразытаў самаўрад, народ, гаспадарства—толькі тыя „пэнсыі, дадаткі, сьвядчэньні, квоты, дыэты і кошты“, аб якіх гэтак падрабязна піша у праектах, смачна захопліваючыся, аўтар апошніх..

Бо-ж ён, зразумела лічыць сябе першым кандыдатам на ўсе гэтыя пасты, „квоты“ і гатуе цёплыя месцы на народным карку для сябе і сваіх калегаў... В.

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Правіцовыя клюбы моцна націскаюць на ўрад, каб ён на розныя важныя, а нават меншыя пасты назначаў абавязкова іх кандыдатаў... Старшыня ўраду, Грабскі, дзеля гэтага пры назначэньнях змушаны кіравацца ня вартасьцю асобы, але націскам партыяў, ад якіх залежыць падтрыманьне яго ў Сойме... Так, пад націскам „хрысьціянскіх абшарнікаў“ („дубадэкаў“) назначаны на вельмі важны пост пасла ў Парыжу п. Хлапоўскі, які ня мае для гэтага ніякіх „кваліфікацыяў“.

---

Паводле апошніх даных, лічба безработных у аднэй толькі Варшаве дайшла да 7600.

---

„Барацьба з дарагоўляй“ у Польшчы скончылася на тым, што ў хуткім часе мае быць скасаваны Надзвычайны Камісарыят, меўшы дзеля гэтай мэты вялікія паўнамоцтвы, але запраўды зусім ня ўмеўшы імі карыстацца і не зрабіўшы нічога... Пачаўшая ўжо было спадаць дарагоўля ізноў пачынае расьці...

---

Занепакоены вельмі слабай падпіскай на акцыі маючага ўратаваць польскую валюту новага Польскага Банку. Арганізацыйны Камітэт апошняга выдаў адозвы да ўсіх палітычных, грамадзкіх, культурна-прасьветных і эканамічных інстытуцыяў Польшчы, каб яны „ўзяліся за прапаганду справы Банку, не чакаючы спэцыяльных у гэтым напрамку просьбаў з боку Камітэту“...

---

Яшчэ нядаўна мы падавалі са слоў польскіх газэтаў аб тым, што п. Грабскі загадаў руйнуюча-суровыя меры сьцягону падатку ад маемасьці аж да публічнай прадажы маемасьці платнікаў... Цяпер „Słowo“ падае, што мін. скарбу п. Грабскі таксама па тэлеграфу загадаў, каб адлажыць гэтыя суровыя паліцэйска-скарбовыя экзэкуцыі да 15/III... Газэты падаюць, што Грабскі зрабіў новыя вялікія льготы панам абшарнікам і прамыслоўцам у гэтым падатку, але міністар паведамляе, што гэта ня згодна з праўдай.

Нашы крэсовыя абшарнікі праз дэпутацыю да прэм'ера падалі мэморыял аб тым, што яны зусім згалелі і ня могуць ні ў які спосаб плаціць гэты падатак... — Трудна будзе п. Грабскаму даканаць сваю „санацыю скарбу“...

---

У цягніку, у якім ехалі з Львова, з працэсу украінкі Вольгі Бесарабавай дэлегаты мініст. унутр. спраў: дырэктар дэпартамэнту бясьпечнасьці, шэф палітычнай дэфэнзывы, у часе падарожы два разы распачаўся пажар... Пад падушкай аддзяленьня, дзе павінны былі спаць гэтыя ўрадоўцы, знойдзены запалены выбуховы патрон, які аднак-жа не пасьпеў узарвацца... Пасьля вобыска ў цягніку арыштавана некалькі асобаў, паміж іншымі чамусьці і рэдактара украінскай газэты Рудчука.

---

У Львове, з прычыны хаўтуроў павесіўшайся напярэдадні суду ў вастрозе украінскай рэвалюцыянеркі Вольгі Бесарабавай, якую польская ўлада абвінавачывала ў шпіёнстве, адбыліся на цьвінтары і ў горадзе вельмі мнагалюдныя маніфэстацыі украінцаў, якія разганяліся паліцыяй. Некалькі асоб арыштавана.

---

У Варшаве пачаліся падгатаваўчыя працы да перагавораў у справе гандлёвага трактату з С.С.Р.Р., якія маюць адбыцца ў хуткім часе.

---

Новы праект аб арганізацыі ваенных уладаў у Польшчы (чытай: аб павароце маршалка Пілсудскага да войска) ўжо апрацаваны ген. Сікорскім у паразуменьні з Грабскім і ўносіцца ў Раду Міністраў.

---

3/III адбылося паседжаньне палітычнага камітэту Рады Міністраў спэцыяльна ў справе адміністрацыі Крэсаў. Апрача сталых сяброў камітэту ў паседжаньні ўзялі ўчасьце дэлегат да Лігі п. Скірмунт, сэнатар Кашніца, старшыня камісіі па апрацаваньні праектаў рэарганізацыі ўладаў на Крэсах, нейкі п. Старчэўскі і адвакат Лёвенгэрц, як знаўцы „крэсавых адносінаў“...—Запраўды крылоўскі квартэт!..

## АНГЛІЯ.

На паседжаньні Парлямэнту Мак-Дональд на інтэрпэляцыі адказаў, што ня лічыць сучасны мамэнт адпаведным для таго, каб Англія запрапанавала новую канфэрэнцыю па абмежаваньні ўзбраеньняў—незалежна ад Лігі Народаў, якая займецца гэтым пытаньнем. Трэба пачакаць далейшых здарэньняў.

Урад, не накідаючы сваіх пагляда́ў іншым дзяржавам, паволі стварае варункі, якія-б умажлівілі памяншэньне і паветраных флётаў дзяржаў (напрыклад,—толькі што сябра ўраду заявіў аб будове 800 новых аэрапляна́ў... Рэд.).

## ГІШПАНІЯ.

Увесь культурны сьвет абураны распраўай генэральскага ўраду з знамянітым гішпанскім пісьменнікам Унамуно, якога называюць гішпанскім Талстым. Унамуно, пазбаўлены паста прарэктара ўнівэрсытэту і сасланы на Канарскія астравы — за яго публічныя лекцыі ў Мадрыце.

## ІТАЛІЯ.

У Італіі пачалася ўжо выбарная кампанія: кожны дзень ці фашысты раняць і забіваюць па некалькі чалавек, ці наадварот і часьцей насяленьне распраўляецца з абнаглеўшымі фашыстамі. Апошняя вестка—ў Бары, варожае насяленьне пабіла на вечы і раніла 10 фашыстаў, з якіх адзін хутка й памёр.

## С. С. Р. Р.

**Выканаўчы Камітэт Саюзу Радавых Рэспублік пастанавіў перадаць Беларускай Рэспубліцы 8 паветаў Вітабскай губ., 6—Гомельскай і 2 паветы Смаленскай губ., у якіх пераважае беларускае насяленьне.**

---

Расейска-румынская канфэрэнцыя адложана з прычыны замены радавага дэлегата Мануільскага Крэсьцінскім.

---

Пасьля Нарвэгіі і Швэцыя гатуецца прызнаць С.С.Р.Р.

---

Пасьля пратэсту радавага прадстаўніка ў Рэвелю, эстонскі міністар заграні́чных спраў афіцыяльна перапрасіў Радавы ўрад за няслушную заяву мін. унутр. спраў Эстоніі аб тым, быццам Радавы ўрад фінансаваў арыштаваных за рэвалюцыйную дзеяльнасьць эстонскіх камуністаў.

---

Старшыня Рады Народных Камісараў, Рыкав паехаў у Лёндын на асабістую канфэрэнцыю з Мак-Дональдам.

---

Радавы ўрад увайшоў у перагаворы з баўгарскім урадам аб узнаўленьні нармальных адносінаў паміж абодвума краямі. Асобнага акта прызнаньня з боку Баўгарыі ня трэба, бо подпіс яе ўраду пад Берасьцейскім мірным Трактатам, хаця і ануляваным праз Радавы ўрад, ужо сьведчыць аб гэтым прызнаньні.

---

Петраградзкая чыгункавая канфэрэнцыя, працаваўшая ад 2—21 лютага, як пішуць рыскія газэты, прывяла да поўнага паразуменьня па ўсім справам паміж усімі балтыцкімі дзяржавамі, устанавіўшы ўсе патрэбныя безпасрэдныя камунікацыі. Паміма волі накідаецца параўнаньне з варшаўскай міжнароднай канфэрэнцыяй, на якой, як сьцьвярджаюць бэрлінскія газэты, ані водная прапазыцыя Польшчы ня была прынята ня толькі Чэхаславакіяй, але і Францыяй...

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

**Збор на карысьць Беларускага прытулку ў Вільні** адбудзецца ў нядзелю 9-га гэтага сакавіка. Усё беларускае грамадзянства павінна прыняць чыннае ўчасьце ў арганізацыі збору і складаць матар'яльныя ахвяры для падтрыманьня бяздольных дзяцей у прытулку.

**Агульны Сход Нацыянальнага Камітэту ў Вільні** адбудзецца ў нядзелю 9-га гэтага сакавіка, а 5 гадз. ўвечары ў памешканьні Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады (Віленская 12 п. 6). Прысутнасьць усіх сяброў абавязкова.

**Новыя кнігі**. Выйшлі з друку і прадаюцца ў Беларускай кнігарні (Завальная 7) новыя кнігі. Я. Пачопка—„Як выбраць добрую малочную карову“ і Зоські Верас „Батанічны Слоўнік“. Ужо друкуюцца і ў хуткім часе выйдуць: Я. Пачопка—„Пчолы і як іх вадзіць у рамовых вульлёх“ і Ф. Аляхновіча „Пан Міністар“.

**Надзвычайная Камісія**. Рада Міністраў упаважніла Міністра Працы да вызначэньня Надзвычайнай Камісіі на выпадак, калі-б не дайшло да паразуменьня паміж земляўласьнікамі і сельска-гаспадарчымі работнікамі. Старшыню гэткай камісіі вызначыць Міністар Працы, а ў склад камісіі маюць увайсьці прадстаўнікі Міністэрстваў Земляробства і Справядлівасьці і па тры прадстаўнікі ад працадаўцаў і сельс.-гасп. работнікаў. Дзеля таго, што паміж Саюзам земляўласьнікаў і Саюза сельск.-гаспадарчых работнікаў у Вільні не дайшло да паразуменьня ў справе калектыўнай умовы на бягучы год, канфлікт гэты зьліквідуе Надзвычайная Камісія.

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

